ТАІСА БОНДАР

# ...І ГОЛАС НАБЫЛА ДУША





*Уласным лёсам спалучыць вякі,*
*Адчуць сябе дачкой свайго народа*
*І гаварыць з зямлёй на мове роднай —*
*Заўжды адказна.*
*Словам трапяткім*
*Крануся цішыні — і не парушу*
*Жывую сувязь лёсаў і часоў.*
*Святлеюць будні —*
*і світаюць душы.*
*І змест яшчэ нявыказанных слоў*
*Усё значней*
*імгненне за імгненнем.*
*Патрэбен новы крок — і новы ўзлёт.*
*І радасць прынясе свой першы плод.*
*Паверыцца:*
*прыйшла пара здзяйсненняў.*

# АБРЫС



Свет сніцца гронкамі мелодый...
Лістамі закружыўшы дні,
Адкрыў Кастрычнік баль штогодні:
Дажджы, намоклыя агні,
Павольныя ў кружэнні рухі! —
Такая музыка ва ўсім,
Што цягнуцца за голлем рукі
У высь, у стомленую сінь.

Свет сніцца гронкамі мелодый!
Святочна свеціцца рака
На самым донцы непагоды.
А поўня, першы самакат
Майго маленства, ноч вывозіць
З парослых зоркамі балот.
І закалыхваюць бярозы
Ужо амаль пражыты год.

Прыволле марам, ах, прыволле!
І не спяшаюся адкрыць,
Што мне ніколі, больш ніколі
Нічога ўжо не паўтарыць.

## МАМЕ

Быць кропляй сонца
ў радасці тваёй,
Слязінкай — у журбе,
што ёсць жаданей!
Дасюль іду трывожнымі гадамі
Па сцежцы, пратаптанае не мной,—
А думамі тваімі...
Мама, мама,
Даруй мне, калі ўсё-ткі не змагу
Вярнуць табе гадоў зялёны гул
З галінкай бэзу,
для цябе зламанай.
Я часта азіраюся назад —
А час бяжыць і хутка, і імкліва!
І мне не здолець, пэўна,
стаць шчаслівай
Ў вясне,
дзе асыпаецца твой сад.



Плылі аблокі — цэлы сад!
Дразды не адпускалі сонца,
Хоць дзень, пабліскваючы донцам,
Завальваўся за далягляд.

Далёка, блізка да начы —
Святло яшчэ цякло па стрэхах,
І сцежка абмінала рэха,
Пагойдваючы касачы.

І вецер — то ўставаў сцяной,
То ў ногі падаў, склаўшы крылы.
Рос, рос уздых. Я камячыла
Яго ў гартані ледзяной —
Так боязна было за міг,
Нібыта блаславёны небам!

Дразды, іх песні, смутак вербаў —
Усё мог патушыць і ўздых.

А мне хацелася сабраць
Па кропельцы вось гэты вечар
І потым — кожнага! — пры стрэчы
Адорваць грудай серабра.

Плылі аблокі...

## СПІЦЬ МУЖЧЫНА

Спіць мужчына,
Паклаўшы галаву
На мае калені.
Цені
Аблачынак
Лёгка здзьмухваю з твару яго
На траву.

І праменні,
Вясёлыя пырскі агню
Пускаюць карэньчыкі ў глебу —
Пад небам,
Чыстым і светлым,
Вырасце дзень.

Спіць мужчына.
Я знаю, у гэта імгненне
Свет даверыў мне
Сваю цішыню.

## ДЗЕД

Ён камуністам быў. Ён быў паэтам.
Ці, як сказаў бы сам,— жыў на зямлі
Гаспадаром. Любіў зямлю. Пра гэта
Задумваўся не часта. І калі?!
Пасеян хлеб, глядзіш — у пояс травы,
Апошні стог скіданы — і жніво.
Зіма — на печ, а ён знаходзіць справу
І ў кузні, і ў кароўніку. Жывой,
Гаючай радасцю была работа
Для рук — ім век бы зносу не было!

Забілі. Прынародна, не ўпотай.
Глядзець фашысты гналі ўсё сяло.

Вяроўкай скручаныя, рукі млелі.
Застрэляць? Не, ў іх вывучка свая.
Зноў бізуны выпісваюць на целе
Крывавы ўзор... Зваліўся як стаяў.
Без стогну. Без слязы на мёртвым твары.
Не думаў пра бяссмерце.
Смерць ёсць смерць.
Убачыць бы, як дзень збірае хмары
Над папялішчам! Ведаў, не паспець...
Зваліўся як стаяў. Прамы. Нязломны.
На грудзі той зямлі, што так любіў.
Дзед. Просты селянін. А я запомню:
Ён камуністам і паэтам быў.



Зернетка...
Што з яго вырасце, калі пасадзіць
Насупраць лета?
Здзіўленне?
Ціша ў падчашніках незабудак?
Зорка? Мелодыя ветру?

У дзве рукі, як у два плугі,
Рыхлю здзірванелае поле чакання:
Пырнік — далёка разышліся стагі,
Камяні — ззаду сцяна цяжкая...

Не ведаю,
Колькі яшчэ шчыраваць.
Поле.
Жыццё — як зернетка на далоні.
Год да года, да баразны баразна —
Сонца
усё карацейшыя промні...

# ПЕРШАЕ ЛЕТА

Як пачыналася? Ірдзеў
Край цішыні за плотам.
Гарласты певень дражніў дзень.
Калючы след асоту
Цягнуўся ўскос, праз сухастой
Да забароннай кладкі,
Дзе вадзянік стары са мной
З пяску ляпіў аладкі.

Як пачыналася? З зямлі
Сагнаныя спякотай,
Над летам воблакі плылі
Святочна і самотна.
Упаў на сцежку цень крыла —
І ўздых, раздзьмуты ветрам,
Пакуль заход не адпалаў,
Гайдаўся
у паветры.



Цэлы свет магу любіць ізноў —
Рада нават змроку, нават ліўню,
Што заграз у ночы, нібы ў гліне,
Цішыню размыўшы да асноў.
Рада смутку. Караваны сноў
Заблудзіліся ў разлогах мары.
Ў сіле добрыя старыя чары —
Радасць абярнулася вясной.
Можна ўброд бяссонне перайсці
З песняй ці з усмешкаю:
— Дабранач!
Можна, абпаліўшы край фіранак,
Сонца ў ноч азяблую ўкаціць,
Разбудзіць сады, і вырай слоў,
І акно — акно, адно на горад!
А якое?..
Бы й не мела гора —
Цэлы свет магу любіць ізноў.

## НЯСВІЖСКІ ПЕЙЗАЖ

Начны ліхтар праз тоўшчу вод азёрных
Высвечвае цяжкое голле ліп.
І дождж, нячутны дождж пылінак зорных,
Павісшы, не кранаецца зямлі.
На дыбачкі прыўстань — зачэрпнеш жменяй
Густы, пад колер срэбра, халадок,
Замітусяцца, замільгаюць цені,
Ухутваючы ў цішу гарадок.
Паўз вежы замка сцежкай салаўінай
Брыдуць паданні ланцужком гадоў
Па крузе: след — глыбокай каляінай,
Праз час — не пакідаючы слядоў.
Уздыхі, сумны шолах, шапаценне,
Да неба — цемры хісткія валы...

Чародка вокнаў уздымае сцены
Над замчышчам, над ноччу, над былым.



Ах, гэтыя паэты! Чарадзеі
На службе у падманлівай надзеі.
Спяшаюцца. Такая недарэчнасць! —
Рассоўваючы па кішэнях вечнасць,
Забыць, што лёгкі плашч любімца славы
Непрымяраны, пыліцца пад лавай.
Забыць: з сабою — ні кавалка хлеба,
А ўводзілі ж у вушы: неба — небам...

Спяшаюцца. Ах, гэтыя паэты!
Асколкі сэрца. Шум. Аўтарытэты.
А ім зайздросцяць! Хтосьці зноў блукае
Між дум сваіх...
І неба ўсё чакае.

# СТАРЫ ФОТАЗДЫМАК

Над папялішчамі галосіць вёска,—
Ад лёсу не адкупішся нічым,—
Магілы брацкай пад шнурок — палоска
Ледзь прыцярушана сняжком з начы:
Шаснаццаць партызан і дзед Амеля
У тым страі...
А станцыя — гарыць!
Учадзеўшы ад дыму, ціша дрэмле —
Ізноў да першых стрэлаў. А ўгары —
Над самай галавой — драпежнай птушкай
Кружляе смерць...

Адвольны пераказ.
Падперазаны кулямётнай стужкай
Стаіць мой бацька.
Лес.
Ваенны час.



*А. Марачкіну*

Купалле... Дзіўная пара!
Зара зару свісцёлкай будзіць.
Святла крыштальная гара
Шатром плыве, як на вярблюдзе,
На выгратым баку зямлі.
Абапал — вецер пасвіць ліўні,
Падзьме мацней — і неба хлыне
Уніз, па лесвіцах галін.

Каменням хочацца цвісці.
Цвітуць лілеі ўздоўж туману,
Што хвост у рэчку апусціў,
Учуўшы галасы заранак.
Бяжыш. І тупяцца нажы
Травы, што след і твой заблудзіць...

Купалле! Напамін аб цудзе,
Аб вечным,
простым цудзе — жыць.

# ГАЛІНКА ЦІШЫНІ



Жыву, удзячная жыццю
За хлеб на матчынай далоні,
За песні — змалку ў іх палоне! —
За боль, падобны адкрыццю,—
Так рэзка высвечана сцежка
У свет з бяссоннае начы.
Праз годы — хто іх палічыў! —
Цягнуся да цябе усмешкай.

І веру-веру! — хоць у сне
Ты адчуваеш цёплы дотык
Усмешкі той, крыху самотнай.
Жыву, удзячная вясне,
За дні з азёрцамі пралесак,
За першы ліст і першы дождж,
За думкі — паспрабуй стрынож! —
Ім і ў бязмежжы часу цесна.

Вясна. Ледзь стрымліваю бег —
Насустрач мне — імклівай далі,
Згадаўшы сына,— маладая,
За ўсё! — удзячная табе.

## НАЧНЫ СНЕГАПАД

Свята! — зарапад.
Збыцца ўсім жаданням.
Ноч — не ноч, а сад,
На галінах здані
Непражытых год.
Вось бы разглядзець іх!
Водзяць карагод
Хвілі, быццам дзеці,—
Успамін мільгне,
Смех успыхне. Слухай.
Ноч — на самым дне
Акіяна руху.
Зоркі, па адной,
Тонуць у бязмежжы.
Сіняе радно
На падсцілцы снежнай.
Сцежкі — неўпапад.
Збыцца ўсім жаданням?
Свята — снегапад
Замятае далі.
Снег пасля, па дню,
Ззяннем асляпіўшы,
Вылушчыць з агню
Сонечную цішу.

## ВОСЕНЬ У МАЛДАВІІ

Бясконцая чарада
Гадзін, запоўненых працай...
У возеры стыне вада,—
Памыўшыся, хукае раніца
На пальцы.

І зноў пусцеюць сады —
За птушкамі цягнецца вецце,
Страсаючы ў пырнік плады.
Гудзе, правадамі аплецены,
Вецер.

У бочках выбрадзіць сок,
Глынеш — апаліць дыханне.
А сцежка, як паясок,
Што лета згубіла, збягаючы,
За гаем.

І лужамі — напраскі —
Кастрычнік плашч свой валочыць,
Ламаючы цыбукі
Дажджу, праpослага з ночы.



Уся — у клопатах.
Жыццё сабрала столькіх
Людзей
Пад дахам аднае душы!
Баліць,
А вось мая, чужая болька —
Тут супраць праўды
Лёгка пагрaшыць.
Як аддзяліць свой лёс
Ад стогну маці,
Крыўд аўдавелых баб —
Яны на ўсіх!
Ад лёсаў іх, надломленых
Не працай,
А думамі цяжкімі...
Галасы
Ірвуцца —
Што ім абалонка слова! —
Шукаюць выйсце.
Не замоўчаць боль.
Як шчасце.
І звіняць, гудуць вяснова
Званы людской надзеі —
Снег ці золь...
Званы душы —
Пад дахам яе цесна!
Дыханнем
Толькі ажыўляю песню.



У свеце — неабходная для шчасця,
Пявучая зямная цішыня.
Хвалююча-ўрачыстае прычасце
Вясновым сонцам на пачатку дня.
Святое таінства. Усё жывое
Страсае зорны пыл, агні, гады...
Далёка ноч. Раскатвае сувоі
Стракатых даляў вецер малады.
І раніца з пялёстка салаўіхай
П'е срэбны сок, настоены на снах.
І ціха. Над усёй Еўропай ціха.
Прыслухваюцца ветразі.
Вясна.



Аблогі, затканыя лесам,
Аблокі над плыткай шашой.
Світае. Цішэйшаю з песень
Світанак радніцца з душой.
Паўз зачараванасць,
паўз позірк —
Палосы густога святла —
Бярозы, бярозкі, бярозы!
Спяплелым дыханнем жытла —
Абжытага краю — дыміцца
Бялюткае сонца ў галлі.
Вяснее. Гукае крыніца
Спяжынку, што мроі звялі.
Зямля наплывае: ігліца,
Ды леташні пырнік сухі,
Ды слёзы...
Паспею здзівіцца:
Каб так паніжэў небасхіл!

## СТАРЫ МАЯК

Ад промняў сонца слепнуць маякі.
Прасцей — ці ж не? —
на міг раней зажмурыцца.
О, я ўяўляю! Хтосьці ўжо хмурыцца.
Схаваўшыся за звыклы ўзмах рукі,
Абвінавачвае — у недарэчнасці,
У спрэчнасці такіх маіх заўваг.
У сонца мноства — безліч! — пераваг,
Ну, што адзін стары маяк для вечнасці?
Ён і сляпы трымае свой ліхтар.
Я ж быццам бачу, як ён натыкаецца
На птушак, што вяртаюцца у раніцу,
Як падстаўляе ветру мокры твар,
Па пояс у вадзе брыдзе паўз водмелі,
Каб знал — абышлі іх караблі...

Далёка ў мора вынесе адліў
Яго тугу. Надзеі — абясплоднелі.
Вярнуць бы яму высь! І зор жніўё!..
Пра што мой клопат ранішні, пытаецц,
А хто з нас можа павыводзіць з памяці
Чаўны, нагружаныя небам да краёў?



Як мала музыкі ў душы!
На ўсім — пячатка згоды.
Турбот сляпыя мурашы
Снуюць па сцежках года.

Спахопішся — знікае даль
За першым жа пагоркам.
І сонца залаты медаль —
У неба на задворках.

Зноў цішыню пакрыўдзіць слоў
Падманлівая літасць.
Зноў вышыню завесіць сноў
Шматколерная мітусь.

З губ вырываючы матыў,
Яшчэ кагось пацешу
Там, за сцяною нематы,
Высокай для насмешак.

А потым — зорак ледзяшчы
І слізкая дарога...
Як мала музыкі ў душы,
Калі ў ёй смутку многа!



Вандроўкі люблю не за іх
Вясёлы падлік краявідаў.
Ледзь рэха — і рэха ж з заік! —
Запнецца, паддражніць бяскрыўдна
Мяне ці трывогу драча,
І неба, у сполахах ветру,
Сарвецца з сасны, як з пляча,
Зразаючы даль, метр за метрам.

Іскрыцца, згараючы, дзень —
Праменні, лісцё ўперамешку.
Гадаеш, куды прывядзе
З сунічніку тканая сцежка.
Хоць гэта не важна, важней
Убачыць, разгледзець, як вечар
Апошні сноп промняў сажне,
Вачам адкрываючы вечнасць.

## КАЛЫХАНКА МАМЕ

Я знаю, ты ізноў не спіш. Ты спі...
Вазамі хмары цягнуцца на поўнач,
Дождж роўна з берагамі ноч напоўніць
Журбой і смуткам —
келіх свой разбі,
Не пі настой той, горыччу крануты.
Згадаўшы нас шчаслівымі, засні.
І твой спакой пральецца ў нашы сны,
Размыўшы непрыкметна грані сутак.
Цяжар не знаўшых адпачынку рук —
Тваіх —
трымае памяць вінавата...
Ты не трывожся —
нас страчае хата,
Выходзячы з садку на цёплы брук.
З сустрэчаю шляхі не размінуцца.
Сон кружыць, кружыць побач,
шэпча: спі...
Хвіліны —
ледзь пружыняць дугі спін —
Выносяць ноч, ім нельга азірнуцца.
Хоць ззаду — свет бязмежнай дабраты,
Маленства...
Дзве касіцы ў яркай раме,
Залітай сонцам раніцы, і ты...
Дзе заначуюць думы твае, мама?
Не знаю. Знаю, што табе не спіцца,
Зноў вяжаш новы дзень,
і промні-спіцы
Мільгаюць у руках...

## КАРАЛІШЧАВІЧЫ

Сярод зімы — зялёны астравок.
Нырае самалёт — ці паплавок? —
У цішыню, якой не знойдзеш краю...
Сасна сасну галінай падпірае —
Наструнены, стаяць плячо ў плячо.
Мароз і сонца. Дарагой парчой
Глядзіцца іней на касматым голлі.
Зачаравана хараством наўколле.
І адусюль збягаюцца сюды
Лясныя сцежкі, ручаі, сляды
Звяркоў і птушак, од і прысвячэнняў —
Так уласціва цішыні свячэнне!
Свяшчэнны дом,
Узгадаваўшы нас,
Паэтаў тлумных гарадоў. Падчас
Вяртаемся — за сілаю гаючай.
А крылы адрастаюць так балюча!
Так цяжка!



Што мела я, што ў мяне ёсць апроч
Ілюзій? — я аддам усе дачыста,
Каб толькі песня п'яным гарманістам
Праплакала да пеўняў, усю ноч.
Каб разбудзіў хоць чыйсці небасхіл
Тугі яе матыў неадмысловы.
І лёгкае ад пацалункаў слова
Паверыла ў расстайныя шляхі.

Адчайна-ярка маладзік цвіце
На мокрай ад расы галінцы ветру,
Бы свет жыве адной мінутай гэтай,
Пакорны зноў уласнай дабраце.
Ілюзіі... Я іх не бараню,
Хоць і падкажа сэрца, а не памяць,
Як мне
да губ каханага губамі,
Хмялеючы, данесці цішыню.



*М. Я. Аўрамчыку*

Ах, туга па Радзіме,
Дарэмна, дарэмна
Піць твой горкі настой...
Праблукаю да дня
Між ялін, што, як вежы,
Вартуюць нядрэмна
Межы мрояў дзіцячых —
Не ўкрасці каня
Са стадолы мінулага.
Папарахнела
І стадола, і час.
Ані следу наўкол.
Толькі ціша
Крыламі лапоча нясмела,
Ледзь учуўшы за далеччу
Пошчак падкоў.



Неспадзяванка — нібы ў рукі сон! —
Праз голле яблынь прасявае неба
Праменні зор, апалепым крысом
Прыкрыўшы край сяла.
І з пахам хлеба
Плывуць насустрач раніцы дымы,
Турботы бласлаўляючы зямныя.
І двое ў цэлым свеце — гэта мы.
Не, не! — І зноў, мякчэючы, заные
У шчасці неразумная душа...
Здаецца, што яшчэ? Я дома. Дома!
З усходам сонца выгнецца шаша,
Спружыніць, і ўслед за невядомым
Рванецца, ледзь шапнуўшы: даганяй...
Неспадзяванка. Скажуць, сон у рукі:
Як пахне цёплым хлебам цішыня!
Як цяжка гаварыць перад разлукай!



Даль заснежана. Рэха ў душы
Як аглухла, гартаючы крокі...
Хто бяду маю срэбрам расшыў
У аконным праёме шырокім?

Яшчэ сонца, нібы кацяня,
Аб шчаку маю мокрую трэцца.
І не ўстала між намі сцяна.
І пакуты не ведае сэрца.

Яшчэ можна не плакаць, трываць...
Дзверы стрэлілі ўслед дарозе.
І — нікога. І толькі чуваць,
Як ламаецца крык на марозе.

## СНЯГІ

Кіпень, рух —
Раптоўна сцяты,—
Завіруха кацяняткам
У сумётах спіць.
Раніца, не еўшы —
Посціць,—
Ужо прадзе
З бялюткай поўсці
Сонечную ніць.
На марозе
Думы спеюць...
У бяроз
Абледзянелі пальцы —
Белы звон
У паняверцы
Тушыць вецер.
Гукі скерца...
Даль бязліста
Свеціцца ярчэй.
Ў позірк сцюжа
Ўмерзла веццем.
Не замружыць,
Не адвесці
Ад снягоў вачэй.

## ВОЛЯ

Бы ў кінакадры запаволеным,
Над бегам — вецер тушыць грыву —
Конь, у дудоўнейшым з парываў,
Ляціць, палёту падняволены!

І ў шыі, грацыёзна-гнуткай,
І ў песні ног, і ў гэтай плаўнасці —
Рух, не скаваны непапраўнасцю
Кароткай, як жыццё, мінуты.

Цякуць пявучым целам лініі.
І ў трапяткі-ружовых пырсках,
Над угару задранай пысай —
Світання шар распалавінены.

І капытамі не кранецца
Травы, а ціша адгукаецца.
Навошта тушыць грыву вецер?
Глядзіце! — занялася раніца.



У колер усмешкі, пад гукі ражка,
У колер, да сонечнасці вясновы,
Фарбуе пяшчота знаёмыя словы
Галінкай вярбы ў залатых каташках.

І словы то сінню ўплятаюцца ў танец
Апошніх сняжынак, праталінак сну,
То зоркамі сыплюцца ў баразну,
То з лісцяў апалых дажджом прарастаюць.

Ім весела ўспыхваць, кружыцца, расці.
Ім весела, гэтым разбуджаным словам.
Іх колер, да сонечнасці вясновы,—
У звоне праменняў, на ссохлым трысці.

Знікаюць сляпыя прарочыцы-совы,
Між небам і мною — блакітны масток.
Трапечацца сцяг, самы першы лісток...
Хапіла пяшчотнага дотыку слова.

# НАСУСТРАЧ СЛОВУ



Прыйсці, стагоддзем памыліцца.
І сумаваць па тых часах,
Калі вышэй на цэлы ўзмах
Плылі надзеі. Не стаміцца
Жыць небам, даглядаць палі,
Прадвызначэнню лёса згодна.

І адчуваць, як неабходна
Твая прысутнасць на зямлі
Цяпер, на гэтым вось адрэзку
Жыцця. Памылкі не было.
То ўзвышша дум, то абалонь
Чакання
высвечаны рэзка
Чымсьці позіркам. Смялей!
Зло не павінна даць усходы.

І ціха прарастаюць годы
Праз белы аркуш на стале.



Зношаны чаравікі маленства,
У якія ўеўся пыл
Бацькоўскай зямлі.
Ці ж дзіўна? — яны былі адны,
Хоць, каб не цесныя,
Купляліся
Памеру наступных гадоў.

Зліняў,
Павыціраўся на локцях і плечах
Яркі сітчык дзявоцтва.
Ці ж дзіўна? —
Часта адну і тую ж сукенку
Надзявалі і будзень,
І свята.

Патухлі,
Ледзь крануўшыся паперы,
Словы любві.
Дзіўна! — яны ж палаюць ува мне,
Выштурхваючы сэрца
На памост светабудовы...

Я так хачу,
Каб у свеце хоць крышачку
Пасвятлела! —
І кожны ўбачыць на паліцы памяці
Свае пыльныя чаравікі маленства
І яркі сітчык надзей.

## РОДНАЯ МОВА

Я выпешчу, выпушчу ў ранак вясновы,
Як птушак, душы запаветныя словы
Пасланцамі песеннай матчынай мовы.
Каму — і якія! — патрэбны замовы,
Каб не забыць, як на голлі сасновым
Ліўні развешваюць смех перуновы,
Каб не забыць, як на лісцях кляновых
Дыхае хлеб у цішы вечаровай.
Родная мова...
Нас ёй вучылі
Цёплыя маміны рукі ў маршчынах,
Вусны каханага, песні спачыну,
Боль у вачах адзінокай жанчыны,
Сны, і бяссонне пад спеў салаўіны,
Даўнія, горкія бацькі ўспаміны...

Несці нашчадкам мне ў сэрцы
даччыным
Матчыну мову, мову Айчыны.



Высокі час душы —
Задумай прыйдзе слова
І выбухне ў цішы —
Ўсясільнае! — вяснова.

Аковы нематы
Спадуць — вось-вось затрубяць,
Зляцеўшыся, вятры!
І з гукаў лепяць губы
Трывогу...
Дзіўны свет
Фантазіі бязмежнай! —
Пяро пакіне след
На лёгкіх стужках сцежак.
А думцы суд вяршыць,
Набыўшы ў слове яснасць...
Высокі час душы,
Калі ты — творца часу.



Незадаволенасць сабой,
Цяжкі палон бяссільных думак...
І раптам, быццам падарунак,—
Удача! Дні наперабой
Загаманілі, загучалі —
Бы голас набыла душа.
О, крылы радасці! Спярша
Ўзляцець ад бездані за далю,
Крануцца неба і пасля
На дне цясніны ўпіцца болем.
А ўсё-ткі — не прасіць патолі.
А ўсё-ткі — выбрацца на шлях.
І ўсё наноў, усё — спачатку.
Сарваць пячатку нематы
І, з небам будучы на «ты»,
Сабе самой шпурнуць пальчатку,
Ускрыкнуўшы: дык будзе бой! —
За лепшае ў душы. І слава...

Наперадзе ідзе па праву
Незадаволенасць сабой.

## ТАВАРЫШУ

> Я здабыў перавал,
> На якім можна плакаць.
>
> *У. Някляеў*

Перашкоды — нішто.
Страх — нішто. Поруч людзі...
Локці ўпарта — на стол,
І хай праца нас судзіць.

Дні — круг не паўтары! —
Вяжуць слоў перавяслы.
Немата — гэта крык,
Ад напружання згаслы.

І калі — немата,
Здэцца, ўсё! адпакутваў!
Дзесьці там, у пластах,
Веры лавай закутай,

Прачынаецца боль.
Ён прарве. Ён прарвецца,
І ізноў за табой
Свішча неба — ці вецер.

Перавал. Перапад
Вышыні пры пад'ёме.
Ты — над памяццю, над
Распасцёртым прадоннем.

Толькі неба. І ты.
На імгненне, часова.
З небыцця! З нематы! —
Праз узніклае слова.

Перашкоды — нішто.
Страх — нішто, ты — над імі.
Локці ўпарта — на стол.
І хай судзяць нас імем.

Калі ўправе судзіць.
Зноў не хопіць паветра...
Сівізна? Проста ніць
Далі, срэбнай ад ветра.



Душа, што бездань, —
Не разгледзець дна
За воблакамі.
Грукатам лавіны
Заглушыць крык...
Апомнішся — адна.
Ні драпіны на целе.
У руінах
Яшчэ адзін
Ледзь-ледзь абжыты храм,
Здалося,
На стагоддзі збудаваны.
І, міг назад
Ад ночы адарваны,
У дзьмухаўцах аблокаў
Небакрай —
Зноў непрыступны.
Зноў спакойна ззяе
Над цішынёй,
Такой, што кроў у вушэй...
А думка, хвілі плавячы,
Спаўзае
У бездань.
У патайнае. Вышэй.

## СЫНУ

Сіла — не ў паняверцы,
У любві. І павер,
Самы большы памер
Рэчаіснасці — сэрца.

Свет — твая маладосць,
Першы крок ужо зроблен.
Дабрата, ўся да кроплі,
Зло, якое ні ёсць,—

У табе! І трывогі
Не пазбавяць ад страт.
Ці ж павернеш назад
З паўжыцця, з паўдарогі!

Зло — не згіне ж яно! —
Зачапіла карэннем,
Хай бяда перастрэне! —
Не заплямся віной.

Так дыктуе не ўзрост,
Не пазнанне, не вопыт —
Сэрца! Вось дзе твой клопат,
Без спадзевак на рост.

## ПАЭЗІЯ

Зноў супрацьпастаўлю
Любоў адзіноце —
Няхай расхістае
Муры яе. Плоццю
Адзенецца прывід...
Працягваю рукі,
Аддана, цярпліва —
І вось, як карункі,
На голлі сасновым —
Смех весняга грому...
Патрэбныя ж словы
Заселі у горле.
І рву іх, і плачу —
Жывая! Жывая!
Магла перайначыць! —
Душу надрывае.
Кроў хлешча —
                    хрышчэнне
Балючым імгненнем.
Ідзе ачышчэнне —
Адкрыты ўсе вены.



Неправамоцнасць пачуцця...
А сэрца ўпарта маладзее.
Так, і цяпер мой сцяг — надзея,
Вятры аб шчасці шапацяць!

Так. І цяпер жыву чаканнем
Любві, вялікай, як жыццё,
Хоць шлях на мноства верацён
Гады матае за гадамі.

Ад чорнае — да залатой,
Цяжкія сонечныя ніці!
То ў зман уводзіла наіцце,
То ўсё перамагаў настрой,

Трывогі след свой пакідалі...
Хто знае, колькі яшчэ вёрст
Ісці! Любоў, як хісткі мост,
Адна і спалучае далі.



Брыду праз думкі ў ветраную сінь,
Разбуджаная гулам акіяна.
Хоць дзе той акіян? Кальцо паляны
Надзета проста на камлі асін.

Трава — у пояс. Аж гарацъ апёкі
Там, дзе раса сцякала па нагах.
Як бусляняты, зоркі на стагах
Пільнуюць час світанку недалёкі.

Ледзь не на пяты наступае цень —
Па срэбру срэбра — месяца старога.
І дзе той акіян! Яго трывога
Трывогай у душы маёй расце.

Не бачна дзе, чые грукочуць кросны,
А вытканаму небу — заравець.
Абы світанак выштурхнуў з-за соснаў
Цяжкое сонца, ўплаўленае ў медзь.



Усё — ці нічога.
Мне мала з трывогі
Выціснуць песню
І тут жа — у скач.
Кожнай травінцы —
Даць імя бога!
Кожны міг —
Заткаць у кумач!
І — шчаслівай! —
Упасці ў кветкі,
Ледзь кіўнуўшы небу здаля...

Будзе доўга
Пагойдваць лета
На далоні
Гняздо салаўя.



Здарожылася сэрца. Боль
Камечыць, сціскве дыханне.
А перамога над сабой —
Не проста крок ці намаганне
На плечы стомлена ўзваліць
Мінулы дзень і дзень наступны.
Замала — з кімсьці падзяліць
Зямную ношу. Без адступных!

Шчаслівая, што столькі бед —
Чужых — у сэрцы пахавала,
Што ў кожным дні бязмежны свет
Наноў з трымценнем адкрывала.
Шчаслівая, што кожны раз
Страчала сонца на парозе,
Што жыў імкліва побач час,
Што з першых крокаў — у дарозе.

Збаяўшыся канца, датлець?
Хай з перабоямі, а б'ецца,
Баліць — яно на тое й сэрца,
Каб скрозь за ўсё і ўсіх балець.

# НАТУРШЧЫЦА

## ВЕРЛІБР

Хацела вырасці як найхутчэй,
Станавілася на дыбачкі,
Каб памерацца
З самай высокай — з зоркай.
Яшчэ! Яшчэ!

Абняць бярозку,
З дажджамі пасябраваць,

Разблытваючы з праўдаю
Іх паветраных змеяў.
Аблачынкі, як галубоў,
Саджаць на плечы,
Не зважаючы, што трава
Адзінокі мой след падкамечыць.

Хацела вялікай, як неба,
Шчырасці.
Хацела вырасці.

Прыйшла любоў —
І здзіўленню канца не было.
Вецце бярозы цякло
Валасамі маімі.
Дажджы чапляліся за спадніцу.
Галубамі на плячах
Раздзімалі валлё аблачынкі.
А я
У далонях мужчынскіх
Змагла змясціцца!
Я ў іх — патанула.



Весела, тлумна —
Заходзіць жанчына.
Майго ўзросту.
З маімі вачыма.
Пастава,
Смех,
Памякчэлы з гадамі,
Нервовая рытміка
Сэрцабіцця.
Яшчэ прыгожая.
Немаладая.
Прыйдзе. Маўчыць.
І сябрам няўцям,
Чаму маўчыць —
Зацята, самотна!
Я ж знаю:
Яна — мая адзінота.
І не ганю.



Ці былі яны — мукі,
Плач у прыцемку ўскінутых рук?
Калі ў небе разлукі
Маю песню спявае жаўрук,
І вясне не трывожна
За ўспаміны, што ў сэрцы нясу,
І насустрач прахожым
На іх радасць смяецца мой сум.

Знаю, кветкі аблокаў
На сцяблінках дажджоў адцвітуць.
І завеі — да вокнаў —
Новы зруб цішыні замятуць.
Знаю, стомяцца ночы
Ў снах шчаслівых выполваць палын,
І, напэўна, аднойчы
Я паверу, што ўсё — у былым.

Мы былі маладымі...
У паветры — шматкроп'е шароў.
Назавуць тваім імем
Самы светлы з маіх вечароў.



Перамога — не за мной, я знаю.
Дык адкуль вясёлыя дажджы
І вось гэта цішыня скразная
Паўз праспектаў цесных вітражы?

Я то слепну ад гарачых пырскаў
Сіні на асфальце, то — бягом,
Думкамі сваімі, ў свет нябліскі,
Блізкасцю паранена яго.

Ах, які салодкі пах трывогі!
Груду ўсіх наступных несустрэч
Да ступні — хай звергнутага! —
бога
Адпіхнуць, і ўсе трывогі — з плеч.

Перамога не за мной. Да д'ябла!
Столькі сілы раптам, захачу —
Сонца працягну табе, як яблык,
Над табой нябёсамі ўзлячу.

Даражыць сваім спакоем строгім
І ў палоне — паланянкай — пець?
Ах, які салодкі пах трывогі!
Маладосць са мной. Яшчэ паспець

Надзяліць усіх сваім уменнем
Радавацца. Паглядзі назад —
Над бяздонным вечарам струменіць
Вырай нашых птушак далягляд.



Ці любіў ты мяне? Ці быў
На мяжы любві і адчаю,
Калі словы плачуць начамі?..
Хай на слёзы іх галубы
Нашых стрэч, як на корм, зляцяцца!
Не вярнуць — і вяртаць не хачу
Дні з табой. Я задзьмула свячу.
І наноў вучуся ўсміхацца.

Я вучуся хадзіць адна
Па размытых сцежках дзявоцтва.
Я вяртаю ўсе паўнамоцтвы
Працы, той, ад цямна да цямна.

Я вучуся жыць у натоўпе
Дзён, на жудасных скразняках.
І развешваю на цвіках
Лета — здымкі пакой затопяць
Сонцам, водарам медуніц,
Шумам мора, чужога калісь.
Я вучуся маўчаць ад болю,
На падушцы гарачай ніц.

Ці любіў ты? Нашто мне праўда!
Успаміны не цераблю.
Я вучуся знаходзіць радасць
У адчайным: ці разлюблю?



Зноў жураўліны клін
Паўз сцежку цягне лета
На шум цяжкіх галін,
На сіплы покліч ветру.

Мне б загукаць услед,
Мне б павініцца ў нечым! —
Губляю цэлы свет,
Не толькі гэты вечар.

Забыць. І даравацъ.
Нібыта адбалела...
А крык не адарваць
Ад вуснаў пабялелых.

Каму, каму лягчэй?
Цяпла так мала ў свеце! —
Без цеплыні вачэй
Застыне снегам квецень.

Абступяць халады,
Да плеч прымерзне неба...
І не было б бяды,
Адно — паклікаць трэба.

А крык не адарваць
Ад вуснаў пабялелых.
І знаю: даравацъ
Не ўмею я. Не ўмела...



Зблытана: каханая, каханка...
Прывыкаем за кароткі міг
Між пасцеллю і пахмеллем ранку
Вызваляцца — ад сябе саміх,
Ад надзей,
Калі б не сверб былога!..
Пройдзе сном цыбатае дзяўчо,
Паглядзіць насмешліва і строга —
І душа заходзіцца плачом,
І не ў радасць летніх дзён раскоша.
Загучаўшы, словы не ўзляцяць,
Быццам і апошні луг мой скошан,
Той, над самым берагам жыцця.
Быццам і няма на свеце гора
Большага, чым тое, што адна...

Гордаю была. Цяпер вось горыч —
Колькі часу! — не дап'ю да дна.



За вокнамі — было іх адчыніць! —
Смяяўся дождж, разгублена, ледзь чутна.
Ну як ён мог мяне абараніць —
Ціхуткі і такі неўсемагутны?
Неабламаны — дацвітаў і бэз.
Някліканы — піў вольхлы водар вечар.
Нялюбы — цалаваў...
                                        Цяжкі адрэз
Ліловага паўзмроку хутаў плечы —
Я зябла, побач бэз патухлы мок,
У падстрэшшы сны гняздзіліся стрыжамі.
Смяяўся дождж...
                                        Ну што ён, зрэшты, мог?
Мне, не яму, вясна была чужая.



Не ўмею быць слабой.
Слабее боль — шкадую
Тваю былую... тую,
Што і цяпер з табой,
Што і цяпер бліжэй...

Ну, абсячы мне крылы
Маім жа крыкам:
— Мілы!
Скажы, што ноч ілжэ,
Ілжэ, данёсшы плач,
Непазнавальна ціхі.
Скажы што-небудзь...
Прымхі —
Паслугачы ў няўдач,
Ды як — адны ж агні! —
Разбіць люстэрка ночы
З тым профілем жаночым
У цёмнай глыбіні?
Як папрасіць назад
Любві чароўны вэлюм?
І ў салаўіных трэлях
Знайсці сцяжынку ў сад,
Дзе круглы год — вясна,
Дзе ўсю вясну — цвіценне,
І не блукае ценем
Віна ў шчаслівых снах?
Віна. Перад сабой.
Мне трэба б — выбраць шчасце,
Да рук тваіх прыпасці...
Не ўмею быць слабой.



Нічога я ў цябе не папрашу.
Адвёўшы позірк, ледзь кіўну пры стрэчы.
Хоць не пашкадавала б і душу
За міг з табой! За наш адзіны вечар!
Жыццё мне даравала б гэты грэх,
Здараецца, даруе не такое...
Твой дзень! Твая любоў! Твой дом!
Твой смех!!
Не засланіцца, як у сне, рукою.
Рэальна ўсё. І тое, што адна...
Акно ляціць, ляціць у цемру ночы.
І мара на кавалку палатна
Малюе лета —
сцежкі лотаць топчуць.
Дзве сцежкі побач, ля маёй — твая.
Я заблуджу іх там, дзе лесам травы,
Дзе ўсё заглушыць пошчак салаўя.
І хто аспрэчыць гэта маё права!
Адгараджуся шчасцем, як сцяной,
Няхай праплачу ноч напрапалую —
Ды хто ўсумніцца ў тым,
што ты — са мной,
Што ты мяне да раніцы цалуеш!

## КУПАЛЬСКАЯ НОЧ

Завару любізнік паначы,
Апушчу ў пітво пярсцёнак срэбны
І счакаю — хай нашэпчуць вербы
Тое, што ўва мне яшчэ маўчыць.

Перш, чым здзьмухну сон, як матылька,
З ручніка, пасланага чаканнем,
Разбягуцца сцежкі ручнікамі —
Ад цяпельца свечкі у руках.

Прыйдзе. Але хто? Але калі?
Падае адзенне... Ноч гадае —
Прыйдзе! Бессаромна-маладая
Прыпаду са смехам да зямлі.

Хай рамонкі цела аплялі
І парваць сіло не хопіць сілы,
Я сукенку тую не знасіла,
У якой гады мае раслі.

Ноч гадае мне, а я — начы.
Мы абедзве ад пітва схмялелі.
І звініць у салаўінай трэлі
Тое, што ўва мне яшчэ маўчыць.

◊ ◊ ◊



Што шчасце, што бяда —
Знямогла ные цела...
Хацела я, хацела
Крычаць: не пакідай!

Пабудзь са мной яшчэ!..
А гордасць узыграла.
Замала мне, замала
Тугі тваіх вачэй.

Патоля — за любоў?
Тады ўжо лепш нічога.
Ад бога, не ад бога —
Я — гэта я з табой.

Знікаў — світала —
                              след
За даллю запацелай.
Хацела я, хацела
Не кінуцца услед...



Кляновік, горкае пітво...
А смага адалее — п'ецца.
Вой, п'ецца!
Выглянцуе двор
Кляновым ломкім веццем вецер.
А з сэрцам як?
Бягу наўпрост,
Не выцершы сляпыя слёзы,
Больш не зважаючы на ўзрост —
Пакуль чакае! Мо не позна.
На дне спаткання заблішчыць
Цяжкая завушніца ночы.
Застогне на маім плячы
Удзячнасць...
Словы не захочуць
Кранацца губ — ім цалаваць,
Ім ціха песціць пацалункі...
Хто будзе зоркі паліваць,
Што ўзыдуць тут пасля разлукі?
То стане страшна за сябе,
То зноў — вясёлаю сініцай...
Хто гэту раніцу дап'е,
Як я, збаяўшыся спазніцца?..



За здраду адплачваюць здрадай?
Чаму ж мне так цяжка глынуць
Крадком ад усіх гэту радасць,
Разбавіўшы ёю віну?

Чаму так трывожыцца памяць
За гэты пакрыўджаны дзень?
Бягуць верставымі слупамі
Мінуты — насустрач бядзе.

Мінуты, мінуты... Жахае
Сляпы і нервовы іх бег.
І стынь. І слязінка сухая
На ўспухлай ад болю губе.

А ўжо не магу адхіснуцца,
Адпрэчыць наступны свой крок.
І толькі спрабую ўсміхнуцца
Сабе
        праз нябачны парог.

## САФО

Люблю, так прагнучы любві,
Яе п'янліва-страснай ласкі,
Яе шчадрот! Шкада — не казкі...

Апалена — святлом рабін,
Падманута — чаканнем сонца,
Хіба ўвартую скарб надзей!
Ў чые абдымкі ноч вядзе?
Адзінага! — люблю бясконца.

Адзінага! — хачу любіць,
Жывую плоць сваю ўтаптаўшы
У крык, аголенасцю страшны:
Хачу любіць!

Мяне вініць?
За тое, што другой жанчыне
Адпушчана прыродай больш?
Што ўсё перамагае боль?
Што столькі снежняў за плячыма?

Так, хутаюся толькі ў смех,
Раскладваючы дні, як карты.
Жыццё — у большым! — вінавата
Перада мной за гэты грэх.
За гэту роспач перад богам,
Якога вынайшла сама...

І вось — яшчэ адна зіма
Мяне страчае за парогам.
Не салавей, а вераб'і —
На трапяткім, з'інелым вецці...

Ці ж я адна — у цэлым свеце —
Люблю, так прагнучы любві?
Так, хутаюся толькі ў смех,
Так, выдумляю вечна святы!
Жыццё у большым вінавата
Перада мной за гэты грэх.



Калі і падаць — з добрага каня...

Я не заплакала, калі ты падаў.
Заслоненая мяккім снегападам,
Малілася. І ноч, уся ў агнях,
Цякла па словах, выбраных наўдачу,
Губляючы агні і цёплы снег.

Маўчанне пацалунка, ціхі смех —
Там! дзесьці за спіной!
А я не плачу.
Я знаю, тут памылка. І сцярплю,
Каб толькі ў міг сустрэчы,
самы чорны,
Над галавою, схіленай пакорна,
Заплакаць:
— Я люблю цябе, люблю!



Як выжыць — не табой,
А кімсьці, не адзіным?
Распаласуе боль
Чаканне — на гадзіны.

Адна... і год — з варот.
Другая... Незваротна!
Жыццёвы калаўрот —
Не раніцой сумотна...

Наўкол — адны дажджы.
Я, ад цябе ў паўкроку,
Уся, уся — з чужых
Прызнанняў і папрокаў.

І сталі сны турмой,
І не злячыла горыч.
Які ты — не са мной,
З той, што заўсёды поруч?

Шчаслівы — за мяне?
Ці за яе — спакойны,
І ўтульна, як раней,
За пачуццём законным?

Найгоркая з навук —
Не памяць сагравае...
Так, не табой жыву,
Але табой — жывая.

## НАТУРШЧЫЦА

Пагляд, пагляд...
Цяжар іх не ўтрымаць.
Чыя ж урэшце гэта перамога?
Нібы перад душой сваёю строгай
Стаю як ёсць.
А роспачы — няма.
Ёсць толькі боль,
Цяжкі, незразумелы,
Боль ва ўсім целе,
Цела ўсяго ўздоўж.
І дождж, цяпер ужо бясконцы дождж,
Там, за акном.
І гэты пэндзаль смелы:
Нічога — за паглядам — не міне,
Нічога не мяняючы, ўсё зменіць...

З малітваю упасці б на калені
Перад сабою, той, на палатне!



Жыла, жыву адзіным клопатам —
Не вымяраць нічога вопытам.

Праверана — не перайначана,
Прыходзіць вопыт — вера страчана.

І ўжо не можаш па-ранейшаму
Любіць, чакаць, па знаку першаму

Ісці, сумненні адкідаючы,
За марай, за няўлоўнай далеччу.

Хай радасць часта памыляецца,
Чакаць удача не стамляецца.

Шчаслівая сваімі бедамі,
Шапчу: не ведаю, не ведаю...

# ПАЭМЫ

## ЦЯГНІК У НЕБА

У засценках душы,
За сценамі памяці —
Зноў бяссонне! —
Да самай раніцы
Мінулае корчыцца.
Столькі год — не кончыцца.
І мне страшна —
Раптам паўторыцца ў сыне
Горам, жахам, бедамі ўсімі!

Хай ужо так?!
Зжылася? Сцярпелася?
Верасень рыжы
Па вогненным верасе
Водгулле крыку майго збірае...
Вечна галоднай
                    ваўчынай зграяй
Накінуцца думкі пра смерць.
Уратавацца!
Паспець
З маленства перакінуць
Мост цераз бездань
Былога —
На ўспамінах таблічка:
«Аб'езд!»
Ды гэта не спыніць, не затрымае
Цягнік,
Перагружаны даўнім адчаем,
Цягнік гадоў.
Дарога прамая —
Заўжды карацей...
Адпрэчыць удар,
Хоць аддаліць!!
Позна.
Пырснуць слёзы,
А здасца — раскоцяцца
Знакамі лёсу
Збітыя з вагонаў
Літары срэбныя:
«З я м л я — н е б а»...

1

Хлеба малыя роўныя долькі...
Уволю б наесціся! —
                    дзе яго столькі.
Раслі.

А хлеба бачылі мала.
Гора — гора таго хапала.
Калі б можна было на гора
У лёса хлеба выменяць!
А пасёлак палохаў голад
Сваім імем.
Калыхаецца цень чаргі
На суровай нітцы размовы:
— Ганнін п'е.
— Адна між магіл...
Трэба ж жыць!
— Цяпер — скрозь удовы.
— Душыць кашаль — вынес з балота...
Везлі хлеб.
Гэта потым, потым,
Абхапіўшы рукамі кулідку цёплую,
Я здзіўлюся: хлеб пахне потам.
Гэта потым.
Адным вялізным натоўпам
Ломіцца ў дзверы мноства людзей.
А-а, як не хопіць! Не пападзе!..
Праклёны.
Хтосьці зыркае злосна.
— Не цісніце так! Тут дзеці!
Млосна.
Крыкі дарослых. Плач немаўляці.
Сонца. Кранутыя жорсткасцю вочы.
Усё паплыло, закруцілася...
— Ма-ці-і!
Ўслед мне глядзелі з натоўпу
Моўчкі,
Выціраючы слёзы, жанчыны вёскі...



Дошкі
пахлі сонцам,
А дзядзька Цімох

З іх збіваў труну.
Каб паклалі ў яе — бацьку!
Кінуся ў хату, абараню
Яго ад сумных усхліпаў, уздыхаў —
Гэта ж мой бацька! Мой! Не іх...
Рукі склалі. Кажуць, не дыхае.
Аднімаюцца зрок і слых,
А я чую — бацька смяецца!
Зноў з яго рук узлятаю пад столь.
Падаю. Доўга. Заходзіцца сэрца, -
Упершыню адчуваючы боль...
Нехта прасіў мяне легчы ў ложак.
Нехта, плачучы, ўсё гукаў:
— Божа мой, божа!
Божа, мой божа!
Бацька смяяўся.
Ў яго руках
Белай хусцінкай снежаньскі вечар
Стыў — я мерзла у кажухах!
Ільдзінкамі слоў,
У тузе сваёй вечных,
Звінеў на дне майго крыку страх.
Страх перад чымсьці цяжкім,
Невядомым,
Што ўжо навісла над нашай сям'ёй.
Пройдуць гады...
Я прыеду дадому,
Каб разабрацца яшчэ раз, самой,
У тым,
што стала ганьбай, пракляццем,
Адной, агульнай для ўсіх бядой...
Колькі ў жыцці давядзецца страціць,
Колькі спазнаць зусім маладой! —
А здавалася: горш не будзе,
Горш не бывае...
Раны смыляць.
І не жыла б, каб не добрыя людзі,
Каб не пакутная наша зямля!

2

У хатулях
выносілі бабы
З вайны надзею на лепшы дзень...
Рукі матчыны звыкла, зграбна
Лета парадкуюць на градзе —
Будзе нейкі бурак, фасоля.
Усё-ткі прыбаўка да працадня.
Раяць: дзяцей — у дзетдом.
Ніколі!
З дзецьмі выйдзе ў поле да дня:
Што гадуюцца ў горы ды працы —
Хіба ж толькі дзеці яе!
Хоць бы не ўпасці, не надарвацца.
Часам ні волі, ні сіл не стае
Глянуць у твар раніцы новай —
І застаецца ў змрочнай начы...
Рэдкая — хай са слязьмі напалову! —
П'ецца гарэліца...
Ноч, не маўчы!
Пі і гуляй,
галасі альбо смейся,
Біся аб памяці берагі! —
Жахі вайны, пахаваныя ў лесе,
Верне кабетам прыступ тугі.
Трое анёлаў глядзяць раўнадушна
З мёртвай іконы.
Змрок — разарві...
Страшна.
Маўчу.
Затыкаю вушы.
Вочы ж ніяк не заплюшчыць,
Хоць вымі!
І адступаю. На грубку. За комін.
Там — малодшыя.
Толькі б забыць боль свой,
Не плакаць. Мы вырасцем хутка.

Па хаце плаваюць дыму клубы.
Горачка-гора...
Страшная смага!
Цені на сценах, як чорная навісь.
Рукі дрыжаць не цнатліва, прагна.
І адчуваю: жаль і нянавісць
Востра ўпіваюцца ў сэрца, пякуць.
Тыя, хто часам над гэтым смяецца,
Ведалі б вы, як маленькае сэрца
Можа любіць!
Як можа пакутваць...
Здаецца, да ночы прыбіта, прыкута
Ходзікаў боем,
тупатам ботаў,
Горкай слязой, пацалункамі...
Потым —
столькі гадоў! —
балючымі снамі.
Толькі не плакаць.
Нібыта не знаю.
І дараваўшы, павек не забыць
Гэты адчай,
песні роспачы, болю...
Маці! Яна не адчула ніколі,
Як яе цяжка было любіць.

Любіць.
І суд учыніць: — Быў бы бацька!..
І анямець. І змярцвела сачыць,
Як слабеюць рукі,
Знянацку
Ўзняўшы сякеру.
Да паўначы
Туліцца да плота. Узненавідзець
Усіх шкадавальніц.
Назло, насупор
Цэламу свету — не дзень, не тыдзень! —
Больш паўжыцця адмаўляцца ад зор.

Упарта захоўваць жорсткасць у сэрцы,
У самых глыбінях пяшчоты. Калі
І вытне жыццё, чаму ж не сцярпецца? —
Не дасць разбіцца пругкасць зямлі.
Любіць. Не даравацъ нічога
Ніколі тым, каго любіш найбольш.
Смяяцца дужым у твар. І ногі
Аддаць шляхам. І ўславіць боль,
Як самы моцны вузел пачуццяў —
Яго развязвае толькі смерць.
Пакутваць. Збавенне знайсці ў пакуце.
Веру шукаць. Быць няверпаю смець.
Раніць наўмысна. Ад раны чыейсьці
Крывёю сцякаць. Забывацца на ўсіх.
Сэрца вучыць вырывацца песняй
З тугі.
Не старэць ад паглядаў касых.
Так. Толькі так, не інакш, і магла я
Быць незалежнай ад кволай сябе...

Памяць —
нібыта й не стала слабей —
Годы
паўсюдна за мною цягае.

3

Ваганне, памножанае на думку,
Дае штуршок — развінаю рукі.
Здаецца, яшчэ намаганне —
і ўздыме
У неба прага прасторы...
Рудымі
Кроплямі сонца свеціцца глеба:
Кінеш зярняты ў раллю —
будзеш з хлебам.
І рукі пакорна прасейваюць зерне.

Гной раскідаюць...
Імгненне ж не вернеш!
Вясновым ветрам зап'ю кус хлеба.
Дзе яно — неба?
Ільдзінкай срэбнай
Плавае ў бездані часу?
Ці сонцам
Наўкол сябе намотала бясконцасць?
Каму яно — неба?
Закаханым? Упартым?
Шляхі, абавязкі — надзейная варта.
А тут...
Жанчыну скруціла гора —
Сыны ў акопах дзесь... хоць бы каторы
Прыйшоў з траіх!
Адзінота — не ўцеха.
І зноў прарастае сумненнямі рэха
Далёкіх жахаў у душах дзіцячых.
І песня — то гімнам лунае, то плача,
Помнячы ўсё: геройства, і здрады,
Жах, і трупы, і бляск парадаў,
Словы праўды, хвалі рэпрэсій...
Сёння многа гавораць аб стрэсе.
А што для нас век? Што мы — для веку?
Ноч апусціла крылы-павекі
І, асляпіўшы, зрабіла відушчай:
Бачна, як цішу высочвае пушча,
Як нараджаюцца ў снах летуценні
І вырастаюць таўшчэзныя сцены
Паміж людзьмі —
з аднаго толькі слова!
Некаму зноў пры ўспамінах калючых
Страшна заснуць,
не адчуць, як балюча
Гады адхлынуць...
Мо лепш невідушчасць?
Хто там пра неба,
пра моцныя душы?!.



Душаць слёзы.
Каня за повад,
Не трапляючы ў баразну,
Вяду, панукаю ўздыхам, словам.
За плугам — гора. Арэм вясну...
Хоць поле яе засеяна смуткам,
І лепш не ўзышло б нічога зусім...

Дарэмна раты затыкаць чуткам:
Усё вядома. Усё — усім.
— Свякруха ў вайну яе ўратавала,
Глядзела тыфозную.
— Грэх Ганне, грэх!
— Дзяцей ёй няньчыла, гадавала.
— Дык не пускала ж...
— Пустое! Брэх!
— За кожны крышан адрабіла нябога —
І вось удзячнасць: на старасці жыць
У доме калек...
— Усюды — пад богам.
— Во-ой, не вытрымаць! Лепш скажы:
Вальней так бабе. Дзеці — не суддзі.
— Маці ж, не мачыха...
— Страшны шлях —
усюды ганьба...

Так вось і будзе
Усё жыццё гучаць у вушах
Баб прыгавор — прыгаворам плоці.
Для чалавека — святцей чалавек,
Ведаю. Толькі дасюль калоціць
Злосць ад бяссіля таго.
З-пад павек
Чорнай ночы
скоціцца зорка —
Хоць у пельку, так зробіцца горка.

Ішла да бабулі — пацалаваць
Руку маршчыністую, сухую...
Яна — даравала.
А я ці дарую?
А я ці дарую вайне за бацьку,
За мамін, такі паламаны, лёс,
За слёзы бабулі над здымкам салдацкім,
За горыч, што праліліся, слёз.
За ўсё, што, не знаўшы яе, перанесла.
Цяпер азірнуся — і сэрца шчыміць:
Дзяўчынкай замурзанай
плача маленства,
Уткнуўшы твар
у падол цішыні...
А дні, пераходзячы ў годы, святлелі.
Вайна аддалялася.
Мары сталелі.

4

Бурчалі жанкі:
панаходзяць аж з Рога...
Павагі няма да часу старога.
Мала таго, што ўкралі бога —
Ён быў. Дакладна вядома — быў!
Рагочаце.
Пайшлі б у грыбы!
Антыхрысты. Вам толькі гулянкі,
Гармонік да ранку...
І сну няма на вас!
Што там сну!
На зыходзе — лета.
Святкуем вясну.
Усё ўпершыню: адчайная смеласць,
Ад ласкі няўмелай
Па целу
разлітая цішыня...

Мелодыя кружыць, кружыць да дня
Маўчанне, ў якім нараджаюцца светы —
Дзівосныя светы!
Сагрэтая
цёплым дотыкам рук,
Зусім адтаўшы,
выходжу на круг.
Сэрцу ў такт
абцасамі выбіваюць:
Да-вай! Да-вай!
Наперадзе — вечнасць.
Наперадзе — вечар...

Вечар —
ён у месяца рог,
Склікаючы здані, трубіў вяснова.
І, як змеі, ўздымалі галовы
І калыхаліся петлі дарог
Над зямлёй, аж да драбаў голай.
Вецер люляў задушаны сон,
Чорны плашч з адарваным крысом —
Там, дзе рачулка,—
кінуўшы ў голаў.
Вечар. Сон кругляка́мі вачэй —
Мёртвы! —
глядзеў на мяне, амярцвелую.
Наўкол шапталіся цені — плячэй,
Рук, грудзей краналіся смела.
Здані надзей — ва ўсе часы
Яны гулялі ў абліччы вядзьмарак,
І гэта ім скараюцца мары.
Цемра.
І галасы, галасы...
— Паверыла ў выратаванне?
— Каханне? Гэта практыкаванні
Для вуснаў, рук, зацяганых слоў...
— Ха̀-ха! Сілу душы яму
У дар прынесці хацела...

— Патрэбна цела, кволае цела.
— А ці ж толькі яму аднаму?
— Вечнасць — гэта ж да смешнага мала.
— Міг — надзейней. Ды й ты ж гэта знала.
— Вернасць — проста забаўка тым,
Хто адразу бяжыць за свахай.
— Душы патрэбны мёртвым святым...
— Душы патрэбны мёртвым святым...

Рукі — не крылы.
Не хопіць размаху,
Каб адсячы ад сябе ўсё
Адным узмахам.
І плахі
　　　　выдумала бяссілле.
Чаго прасцей — абезгалоў
І сны, і думкі...
Я прасіла свой лёс,
Каб з найгарачэйшых слоў,
Праз крыўду новую, праз гора —
Ўспаміны ўсё-ткі прараслі...

Няма любві.
Стаіць той хорам,
Да сцен якога у разліў
Прыносяць, прыганяюць рэкі
Абломкі лёсаў-крыг.
　　　　　　　　　　　　У ім
Маліліся калісьці грэкі
На хараство.
　　　　　　　　　А мне сваім
Ён запусценнем склеп напомніў.
Змрок. Павуціна.
У кутку,
Нат без сарочкі, на саломе
Стагнала баба, і руку
Да болю вывернуўшы,— божа! —
Грабла салому з-пад сябе,

Каб як прыкрыць свой сорам.
Можа,
Знямогшыся — адчай слабеў,—
Яна зусім не заўважала,
Што ўся дрыжыць,
што ўся гарыць,
Свой крык загнаўшы ў цела джалам:
Бяры мяне! бяры! бяры!..

Аддаць жакетку — гэта ж мала!
Заблыталася ў рукавах.
Стагнала баба, так стагнала,
Што перад жалем сцяўся страх.
Спадніца, кофта...
Без апраткі
Адчула: горача крыві!
Паўзуць чыімсьці шэптам гадкім
Парады: крыкні... пазаві...
Жанчына — ты... крычы...
Не трэба!
Пусці!
У чым была, з гары
Я кінулася прэч. І неба,
Неба смяялася ўгары?
Ёсць неба, ёсць!
Прасцяг бясконцы
Цячэ патокамі святла,
Запальваючы ў душах сонцы...
Любоў
нянавісцю датла
Спаліўшы, не адчула болю.
Здалося: што там! Пражыву.
А страху чорнага павук
Плёў нерат, плёў.
Няўжо сабою
Не адкуплюся ад прыроды!
З дня ў дзень наступны,
З году ў год

Цягнуў далей ад хаты роднай
Забаў, гулянак карагод.
Не палюбіўшы, мілавала.
Бязлітасная — гнала прэч.
Прызнанні. Лёсы...
Мала! Мала!
Яшчэ!
Ідзі ўтрымай, адпрэч
Падзенне...
Але, высь адкрыўшы,
Ўзляцела песня — і святла
На момант не хапіла цішы!
Пакутвала. І ўсё ж — жыла!
Жыву назло жаданай смерці.
Шчаслівая.
І гэта ёсць.
З усіх вятроў сустрэчны вецер
Зноў выбіраю.
Маладосць
Я не спіхну за непатрэбай
У бездань — рушу камяні,
Будую мост. Па ім у неба
Ляціць маіх гадоў цягнік.
Прыпынак не адзін чакае,
Хіба — не будзе болей страт...
А на плячо далонь цяжкая
Лягла, вяртаючы назад,
У сад самотных успамінаў —
Ці ж вызваліўся ад сябе!
Трывожыць смутак жураўліны,
Ды й гэта ніць усё слабей...

5

Забыць.
А думы хіляць галаў.
Дзе сон, дзе сутнасць — разбяры...

Ступаю, быццам па вуголлях,
Праз позіркі калек, старых,
Пакінутых дзяцьмі ці богам.
З усіх бакоў — сцяна.
І дом —
Нявольнікам, аж выгляд раніць.
Прыгорбіўся...
Якім судом
Прыгаварыць, пацешыць памяць?
. . . . . . . . . . . . . . .
У слоіку — штодзень усім
Давалі масла —
долькі, долькі...
— Лацвей мне тут! А ты з'ясі.
І чым яшчэ... Вучыся толькі!
Бабуля!
Верыла яна —
У тых, хто любіць,
брацъ няцяжка.
А я
пакунак той бязважкі
Ледзь падымала.
Што віна! —
Калі б не на душу, на плечы...
Усе свае надзеі-дні,
Адчай, тугу па шуме ніў —
Перадавала мне. Навечна.
А я пыталася — як жыць?
І знала — выстаю. Павінна.
Гады ішлі, ішлі з павіннай
Да рук яе, цяжкіх ад жыл.
Рыпелі здзекліва вароты
(Глядзі, глядзі! — прыйшла ізноў),
Нашэптваў бэз аб чымсьці,
слоў
Пазбягаючы, употай
Падслепаватым вокам дом
Мяне разглядваў.

— Да Марылі?
— Яна ж памерла.
— Гаварылі!
— І помніць...
столькі ўжо гадоў!



Гады... Мінаюць яны.
Зямля забывае вайну
І тых, хто выносіў з вайны
Надзею, нібы віну,—
Ім так хацелася быць
Шчаслівымі! Як і нам.
А ззаду, побач — вайна.
І шчасце (хлеба б малым!)
Было далёка ў былым...

Паверу я ў правату
Тых горкіх жаночых слёз.
І пракляну немату,
Удзячная часу за лёс.
У першы ж сонечны дзень,
Адчуўшы роднасць з зямлёй,
Расла! — і ў горы, ў бядзе.
Цягнуцца сыну за мной.

Гады — ззаду доўгі шлях —
Не несліся паражняком.
Балюча адчула зямля
Іх груз, іх бег.
Скразняком
Прадзьмутая цішыня
Кранулася скроняў,
снег —
Як ціха імгненні звіняць! —
Ляціць, бы ў казачным сне,
У неба, насустрач яму...

А позірк упрэцца ў сцяну
І вернецца.
Позна.
Хай так.
І лепей, што так. Не бяда.
Падкінуць на шчасце пятак?
Свой выбар былы апраўдаць?
Навошта. Ці ж выбар то быў...
Прадвызначаны вайной,
Лёс звязан з цішай зямной
Трывожным клічам трубы,—
Трывогай за новы дзень,
За дзень шчаслівых падзей.

## КВЕТКА БЯДЫ

Ад чужой бяды —
Да ўласнай долі.
Памяць перабірае гады,
Рукі — кветкі ў падоле...
Сонная лотаць
Сонца павек прычаруе.
Рамонкі
Вянком карануюць кахапне.

Дзьмухаўцам
аблачынкамі лётаць
З рук у рукі,
На хвалях дыхання.
Макі — памяць гадоў
(Зямля захлынулася б
крывёй забітых!).
Смехам стрункіх званкоў
Будзіць дзень трапяткія лятункі.
Хто ім лёс неаднолькавы зычыў?
Аднолькава — выпас...
Да грудзей зямлі
Час прыпаў немаўлёнкам —
Прыцмоквае,
Смешна наморшчвае лобік.
А малако — падземныя глёкі,
Настоеныя на хваробах...
Тыфус?!

## 1

Застагналі балоты.
Бруд, духмень, цесната.
Ад крыві і гнойнага поту
Не адмокне кара на бінтах —
Зноў паранены просіць:
— Перавяжы!
Здэцца, як тут выжыць! Лаўжы
Чалавечых крыкаў,
пакутаў, боляў.
Гаціць трупамі смерць іх шлях.
А яны ўпарта: — Тут — воля.
Помсту скрозь гадаваў не страх,
А нянавісць. Атрады мужных
Што ні дзень радзелі — раслі.
Бабы...
Хто, не маючы вестак ад мужа,

З хатулямі і плач свой насіў
Ад адной да другой магілы.
Хто ў забраснелай, цёплай вадзе
Ад кашуль адшароўваў цвілы
Пах даўно ўжо нямытых цел.
Хто старчыхай збіраў даведкі.
Хто не верыў яшчэ бядзе...
Перасядзець. Перачакаць.
Дачка ж...
Чаго бадзяцца па свеце?
Хараство, як прывабная квецень,—
Хто ні йдзе, зачэпяцца вочы.
А светам вайна ішла...
Ані дня ў схове, ні ночы.
Ад газнічкі пляма святла
Ледзь трапеча ў такт сэрцу:
Там, у жыцці, вайна —
Гіне люд, каміны-пагарэльцы
Праклінаюць неба. І ці ж віна —
Выжыць? Выжыць у гэтым пекле
Для любві — аціхне ж зямля...
Вунь, забілі Гнатаву Тэклю —
Задушыцца б ім, катам! —
адно за цяля...
Перасядзець... Сяброўкі, з сінецкіх,—
У атрадзе. Мамы шкада —
Мо і ёй бы... Тахкае сэрца.
Дзесьці побач ходзіць бяда.
Толькі б след свой пакінуць сцежкам!
Зоркі ўбачыць! —
так часта бачыць у сне.
Позна. Хто тут яе на ўзмежку
Выглядаць будзе...
Хрусткі снег
Незнаёма, святочна іскрыцца,
І паблісквае ў вуху начы
Маладзік залатой завушніцай.
Ціша дрэмле ў столках парчы

На бярозе. Воблачкам белым
Ўспырхнула!..
Цень слізгануў
Напярэймы думкам дзявочым,
Зноў вяртаючы страх і віну
Перад маці...
Слязяцца вочы.
Крык, запхнуты хусткай у горла,
Грудзі рве —
Ёй доўга чапляцца
За паветра, за промні зор...
Кроў чужая стыне на пальцах,
Ліпне, ліпне, быццам смала.
Цела б'ецца, не хочучы верыць:
Прадала яго ноч, прадала,
Ледзьве ззаду рыпнулі дзверы...

2

Дачушачка!..
Хіба ж доля твая
У гора пазычана?
А мая ж ты Ганулька!
Сама зямля
Табе шчасця зычыла.
Расцвілі, каб змадзець,
Вочы твае васільковыя?
Роднай хаты сцены
Красу тваю не ахоўвалі.
Ці ж на здзек жыццё
Абыходзіла слотамі?
Дзе ты, донька мая,
Сярод нас, жывых, спакутваных,
Альбо мёртвая?..
Дачушка мая,
Дачушка...
Я і ў рэчкі пыталася —

Не была ты над ёй, не схілялася.
Пакланілася нізка раніцы —
След твой недзе ў начы губляецца.
Да бярозы прыйшла з паклонам,
А яна, прамая, нязломная,—
На ўтаптаным снезе, патрушчана.
Ноч, у змове з сяброўкай-пушчаю,
Не адзыўнулася.
                    Горкія-горкія,
Застываюць слёзы на снезе зоркамі.
У каго запытацца, доню?!.

3

— Убіваль? Под-жог? Парцізан?
Шульц чакаў.
                    ...Навошта ён?.. божа...
Ўсё гарыць — і рад бы назад!..
Шульц чакаў. Зляцела:
                                        — Прыгожая.
Прыгажосць... Цяжэйшай віны
І абразы для вылюдкаў звеку
Не было. Скрозь склікалі званы —
Да працягнутых рук калекаў,
Праклінаючы пэндзлі майстроў,
Што вярталі свету ўсе страты.
Самым верным — кветкі кастроў.
Самым гордым — вянкі вар'ятаў.
Не маё — няхай нічыё!
У зямлю — хай попелам, косцьмі,
Успамінам... І — ўласны раёк?
Абрастай кальчугаю злосці?
Не!
Адпомсціць злачынцу злачынства...
Заляцаўся калісьці...
Дрыжыць
Паліцай пад позіркам чыстым:

Ганна плюнула ў твар...
Развяжы!
Ён, арыец, ведае кошт ім...
Падышоў, ірвануў кажух.
Потым рукі яе, разам з кофтай.
І глядзеў — хіба ён не зух! —
Як кідаліся рукі адчайна,
Каб сцягнуць спаўзаючы з плеч
Разарваны паркаль. Пачвары!
Стась наткнуўся на злоснае «прэч!»,
Прастагнаў:
— Люблю яе... пану...
Дзверы грукнулі ззаду, як стрэл.
І вачыма шалёнымі Ганна
Ўсё адштурхвалася ад сцен,
А чужыя, ліпкія пальцы
Мялі грудзі яе. Крык поўз...
Крык душыў...
На шкле — дням зліпацца! —
Трэці плач малюе мароз.
Трэці стогн...
Ані ног не чуе,
Ані рук. Прыгняла немата.
Час з бядой яе заначуе —
Ноч на дзень, дзень на ноч наматаў.
Немата.
І ў вушах быццам вата...
За каго яе год паўналеццня прасватаў?
Мама...

4

Тэкля старая
Ўсё шукае дачку — абыходзіць двары.
Карнікаў лютых ваўчыная зграя
Вёсцы пакінула голад — гуляе
Недзе далей...

— Ідзі, забяры...
У хлеўчуку... там Ганна...
Гаворыць,
А ад страху аж пасінеў —
Упершыню Стас адчуў:
прыгаворан.
Мурашамі паўзуць па спіне
Ззаду позіркі баб, малечы...

Цяжка боты ўзрываюць цалік.
Тэкля сунецца з ношай. На плечы
Хустка збілася.
Па зямлі
Яе цень валочыць. Завеяй —
Над ілбом валасы, чысты снег.
Ні стагнаць, ні плакаць не смее,
Паўтарае адно, нібы ў сне:
— Бабы, то ж мая Ганна!
Паглядзіце, то ж Ганна мая...
І яе, як зямлю нашу, зганьбіў
Вораг.
— Людзі, то ж Ганна мая...
І маўчалі людзі.
Як поле.
Як нябёсы — на крыўду яе,
Так, што чутна было, да болю,—
Ўся зямля, з краю ў край, устае,
Каб адпомсціць.
— Скажы, адгукніся...
І цалуе, і плача, і трэ
Абмарожаны твар...
Спыніўся
Дзень пад вокнамі...
На партрэт
Прыгажуні — год паўналецця! —
Уздыхнуў. Вочы ўбок адвёў.
Каб паглядам з дзяўчом не стрэцца...
Заплываюць далі крывёй.

Гэткі здзек!
Такое злачынства!!! —
Адпадуць пальцы рук, пальцы ног.
Твар дзявочы, мармурна-чысты,—
Як пабіты градам.
Парог
Цішыні — сцяной. І — нямая! —
З горла толькі крык пракаўтнуць,
Крык нялюдскі.
Бераг адчаю
Не знаходзіць душа,
                    па дну —
Шматпудовай, сцятая тоўшчай,—
Ўсё паўзе на святло, паўзе...
Гэткі здзек!
                Нянавісць палошча
Дні і думкі ў чорнай бядзе,
Нібы ў чорнай, мёртвай вадзе...

5

Пераседзець... Сляпая надзея! —
Колькі ахвяр прынесена ёй,
Колькі малітваў. Лёс ліхадзеем.
Ў гэткім горы нельга адной —
Скруціць...
Студзяць сэрца нягоды.
Век — аднагодак, а кліча старой,
Кожны дзень бяды лічыць годам.
Зноў вясна. І кветкі. І кроў.
І маладая... Хто? Яе Ганна?
Тэкля зеллямі поіць дачку,
Абмывае слязьмі шторанак —
Толькі страх жывёльны ўваччу!
Толькі боль —
                    ажыў пад сэрцам,
Парушаючы сэрцабіццё.

У дачушчыным целе-калецы
Падрастала чужое жыццё —
Дар і тут няўмольнай прыроды:
І любоў, і ўцеха, і здзек —
Ўсе на службе ў яе, ад роду.
Пад вянец дзяўчына ідзе?
Сад адзеўся ў белыя строі?
Тэклі — абы дачку злячыць.
Але ж крыўда — не лекі, а зброя...

Не чакала нават начы.
Сонца бачыла — не асудзіла:
Стас ужо намацваў курок,
Ды раней пацэлілі вілы...
Першы крок са сцежкі, убок,
Згорбіў Тэклю. Пашкадавала —
Не прадажніка! — цішыню,
Што ў душы дасюль панавала.
Знала: знойдзе ў лесе радню.
Знала: помста маці — святая
(Так, навучыцца і страляць!),
А ў ёй корчыўся жах...
Сватамі
Сталі гора ёй ды бяда.
За адчаем — над самым бяздоннем
Чалавечага гора жыць,
Але — жыць.
Не ў зямлю маладою...

Месяц ночы ў гаі варажыў,
Гнала з цёмнай хаты трывога.
Сонца яшчэ не набракла крывёй,—
На адыход памянуўшы бога,
Тэкля пайшла ў атрад.
За спіной —
Як па вуголлі —
ў матчыных думках
Позірк даччыны шлях церабіў.

Што ж, у Тэклі — дужыя рукі,
Усё за абедзвюх будуць рабіць.

Перачакаць... Наіўная вера!
Колькі ахвяр прынесена ёй.
Вісельні, печы, яры-трупэрні...
Смерць яшчэ не ўпілася крывёй,
Дык варожай няхай уп'ецца!
У горы — бы ў шчасці! —
віДушчае сэрца...

6

У шчасці, не ў горы...
Дзяўчынкаю, помню,
Нема крычала
Ля матчыных рук:
Страх агарнуў —
Старчыха далонню,
Страшнай, бяспалай,
Кранулася... Ўкруг
Моўчкі стаялі
Дарослыя. Ганна,—
Гэта была
Менавіта яна! —
Усё адступала.
За дзверы. На ганак.
Прыгнятала бяда,
Як віна.
Вочы скошаны
Вінавата —
Будзе гучна
Сёрбаць булён,
За паношаны
Мамін ватнік
Нізка кланяцца.
І праклён,

Якім маці
Вайну памяне,
Не кранецца яе душы...

Мне не спаць...
І стыне да ранку
Неба ў вецці.
Не спарышы —
Хараство і ўбоства,
А побач.
Пакалечанае дзяўчо
Голаў стомлена —
У сне, верагодна,—
Пакладзе на маё плячо.
Мне прысніцца
Яе вяселле,
Смех, музыкі...
Была вайна.
Вада ў крыніцах —
Смяротным зеллем.
Хтосьці сыкаў:
Бяда... віна...

7

З усходам сонца цяжка паміраць —
Сляпыя сны атросшы, мякка ззяе
Бор,
        быццам ён рукамі разьбяра
З сінечы высечан. Туман спаўзае
Больш непатрэбным покрывам —
Дзівіся!
Сыходзяцца ў купал верхавіны —
І золатам па іх сцякае ўніз
Святло. Лісцё трапеча на галінах
Ад дотыку птушынага крыла.
Нібы вайны няма — цвіце арэшнік.

Крупінкі сонца рупная пчала
Збірае з кожнай кветачкі няспешна.
Стракаты чмель гудзе...
Зямля гудзе! —
Аперазана пасакам сталёвым.
Тут — кулі іх сагналі — наградзе,
Сярод балотаў і пад іх аховай
Чакаюць людзі горшага канца.
Сюды прынеслі партызаны Тэклю...

Тры самалёты, з боку Івянца,
Ад воч пакутных вышыню адсеклі.
Са свістам багна ўцягвала ваду,
Трэскі, асколкі бомб, людскія стогны.
На горкі яблык Сінюю граду
Збівалі кулямёты.
Смерць знямогла
Ўцірала пот — няма што бараніць...
Над месівам крывавым —
страшна! страшна!
Трапеча сонца залатая ніць
У дзюбе кнігаўкі. Стаіць мурашнік.
Апырсканы крывёю і агнём,
Трапеча лісце ў белых пасмах ветру.
Гудзе стракаты чмель. І каранём
Чапляецца сасонка за паветра.
Жыццё...
А гэта... чорнае жніво?..
Жанчына — Ганна? З таго свету? —
Пойдзе
Галосячы... Ужо цяжкі жывот
Акругла выпірае — так на подзе
Хлеб дыхае,
Так шар зямны трымціць,
Прыслухваючыся да штуршкоў у нетрах...
Жывая! — на балючым адкрыцці
Жалобны знак
разбомбленага лета.

8

Застагналі балоты. Тыфус.
Людзі згараюць свечкамі.
Адны — непрыкметна, ціха,
Другія трызняць расквечаным
Сцягамі маем далёкім...
А смерць ледзянымі пальцамі
Студзіць ілбы. Палёгкі —
Адпакутуюць! — дачакацца ім.
Доктар, адзін на лагер,—
Жонка забітага фельчара.
Спірту — на дне біклагі,
Кончыцца каля вечара.
Усе, што мелі, лекі —
Адвар на кары бярозавай...

Байцы прывялі калеку —
Раджаць ёй, а тут —
тыфозныя...
Няма спадзевак на бога,
Выжыць — кожнаму хочацца!
Чыгунка, баі — перамогі...

А памяць на месцы топчацца.
Наўсцяж падсцілкі з саломы,
Дзе ўпокат сем'ямі цэлымі
У гарачцы трызнілі... домам!
Дом! Зямля!

Пад прыцэлам —
Нават думкі пра помсту.
Ды будуць, будуць адпомшчаны
Здзек, забойствы, кароста.
Будуць!
Толькі...
Паркет навошчаны.
Шолах шоўку. Ўсмешкі. Бакалы.

У малодшай дачкі — заручыны,
Шульц — а Ганна б яго пазнала! —
Журналісту брэша завучана
Пра прагрэс, пра клопат канцэрна,
Пра наладжванне мірных сувязяў...
А патухлы экран мне верне
Сорак другі...
Не сунешся —
Вонь, задуха. Газнічка
Ледзь-ледзь свеціць. А крыкі
Разарвалі ноч. Слёзы-znічкі
Ціха падаюць на падсцілку,
Дзе сарочкай дранай абцёртае
(Кроў, салома, тыфус — забудуцца),
Ужо цягнецца прагным ротам
Да грудзей —
немаўлёнкам —
будучыня.
Да грудзей, якія так злосна
Мяў, крыві напіўшыся, вораг...

Захліснулі былое вёсны.
Мне б пра шчасце пець, не пра гора —
Ў белым, поўным сонца пакоі
Нарадзіўся сын мой.
Святкую.
Веру: неба над чалавекам —
Гэта неба над чалавецтвам.
Хіба можна яго патушыць!
І, дацягваючыся рукою,
Нагінаю квецень цяжкую
Да калыскі.
І ціха плачу...
Плач мой —
з торбы тае жабрацкай,
Што з вайны выносіла Ганна,
Лёс яе — незагойнай ранай
У маёй душы.

◊

Час не здыме віну
За гады,
Ў якіх гінулі дзеці...
Праклінаю вайну!
Праклінаю ўсе войны на свеце!
Сонца свеціць — усім.
Кветкі ўсіх
Сваім водарам пояць.
Нарадзіўся мой сын —
Стань руплівым сейбітам,
Воін,
        у абшарах жыцця!
Узбраенне —
Ці ў гэтым бяспека?
Падымаю дзіця
Над усімі трывогамі веку.

# ЗМЕСТ

НАСУСТРАЧ СЛОВУ



НАТУРШЧЫЦА

ПАЭМЫ

Бондар Т.
Б81 ...І голас набыла душа: Вершы і паэмы.— Мн.: Маст. літ., 1980.— 112 с., іл.
45 к.

Зборнік складаюць чатыры раздзелы, чатыры цыклы вершаў, і дзве паэмы: «Цягнік у неба» і «Кветка бяды».

Лёс жанчыны, яе імкненне да шчасця ў працы і каханні, яе чалавечая годнасць і ўменне выстаяць нават у самыя крытычныя моманты жыцця — тэмы многіх вершаў аўтара. Сувязь розных часоў, узаемапранікненне чалавечых лёсаў, прага святла і гарманічнасць — аб гэтым паэмы.

Б $\frac{70403-026}{М 302(05)-80}$ 40—80 ББК 84 Бел 7
Бел 2

Таиса Николаевна Бондарь
...И голос обрела душа
*Стихи и поэмы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Хв. М. Чэрня
Мастак В. І. Бондар
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень
Карэктар Н. А. Давыдзенка

ІБ № 875

Здадзена ў набор 19.09.79. Падп. да друку 21.12.79. АТ 01360. Фармат 75×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,37. Ул.-выд. арк. 3,73. Тыраж 6000 экз. Зак. 2596. Цана 45 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.